


# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

№ 4 ГОД ВЫДАННЯ ТРЫНАЦЦАТЫ 1941

## Агляд піянерскіх атрадаў.



# Юныя піонеры Беларусі!

Кожны з вас бязмежна любіць нашу соцыялістычную радзіму, марыць і імкнецца вырасці мужным барацьбітом за вялікую справу Леніна — Сталіна, дастойным грамадзянінам Совецкай краіны.

Вы, рабяты, носіце высокае званне юных ленінцаў. Дзе-б вы ні былі, заўсёды і ўсюды вы павінны ведаць, што піонер—гэта пісьменны, культурны, ветлівы, дысцыплінаваны і арганізаваны чалавек.

Піонер добра вучыцца, заўсёды і ўсюды помніць, што веды яму патрэбны так, як байцу вінтоўка ў баі.

Піонер - гэта не беларучка, не парадны хлопчык або парадна адзетая дзяўчынка. Піонер—гэта барацьбіт, які гатоў да абароны сваёй радзімы, умее страляць, аказваць першую дапамогу, добра шагае ў страі, ведае тапаграфію і ваенную сігналізацыю.

Краіне патрэбны моцныя і выносливыя людзі. Таму кожны з вас абавязан займацца фізкультурай—гімнастыкай, лёгкай атлетыкай, быць значкістам БГПА.

Сапраўдны піонер—гэта той, хто не баіцца працы, умее ўладаць рубанкам, напільнікам, пілой, тапаром, латаць вопратку, будаваць шалаш, шыць заплечны мяшок. Піонер любіць і паважае працу, актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці.

Бязмежна любіць сваю радзіму, быць заўсёды гатовым абараняць яе, быць культурным і дысцыплінаваным, здаровым і выносливым—усё гэта неад'емныя якасці ленінца.

Цэнтральны Камітэт комсамола Беларусі аб'явіў агляд піонерскіх атрадаў рэспублікі.

Мэта агляду—падняць роль піонерскага атрада, зрабіць піонерскую работу яшчэ больш цікавай і змястоўнай. Агляд—лепшая праверка таго, як піонеры рыхтуюць з сябе дастойных грамадзян нашай соцыялістычнай радзімы, як авалодваюць асновамі навук, набываюць працоўныя навыкі і ваенна-фізкультурную закалку.

Юныя ленінцы! Выходзьце на агляд! Спаборнічайце, змагайцеся за чэсць свайго атрада, аказвайце адзін другому таварыскую дапамогу. Помніце, што кожны піонер нясе адказнасць за справу атрада, а атрад адказвае за вучобу і паводзіны кожнага піонера. Піонеры Беларусі! Цэнтральны Камітэт комсамола ўпэўнен, што вы з чэсцю правядзеце баявы агляд піонерскіх атрадаў, яшчэ вышэй узнімеце званне юнага ленінца—выдатніка ў вучобе, у працы, у ваенна-фізкультурнай падрыхтоўцы.

Расціце адукаванай, мужнай і здаровай зменай. Будзьце гатовы да барацьбы за справу Леніна—Сталіна!

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ
КОМСАМОЛА БЕЛАРУСІ

---

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
КРАСАВІК 1941 год. № 4.
Год выдання—трынаццаты.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ



# Адзінокая хацінка

*А. Белянічаў* *Малюнкі М. Свяцкага*

Пасля бою мы адпачывалі ў зямлянцы. Шофер аўтамашыны Како Цагарашвілі грэўся ля жалезнай печкі і апавядаў:

— Сёння ўпершыню за ўсе месяцы я адстаў ад вас, браткі мае. Чаму? Шына лопнула. Пакуль я адкруціў кола, адзеў новае, дык і астаўся адзін. Я паправіў сваю трохтонку і паімчаўся, як віхор. Сівыя хваіны мітусіліся ў вачах. На самым небасхіле паказалася скрыначка. Хутка яна вырасла ў хацінку.

Як наўмысне, каля самай хацінкі трохтонка завязла ў глыбокім снезе. Ні туды, ні сюды. Я вылез з кабінкі. Тупаю навокал. Аказваецца, машына папала ў канаву. Што рабіць? Трэба пашукаць у хацінцы, можа дошкі знайду падкласці пад колы.—Але небяспечна. Магчыма, што і тут вораг чакае.

Я асцярожна накіраваўся да дзвярэй. Яны як-бы чакалі мяне—былі насцеж адчынены. Я асцярожна пераступіў парог. На кожным кроку тут магла быць міна, замаскіраваная, непрыкметная. На гэта белафіны майстры.



У сенцах валяліся клункі, вопратка. Можна было з аднаго позірку зразумець, што гэта хата бедняка.

«Хатка лесаруба падзёншчыка ці парабка»,—падумаў я.—Відаць зусім нядаўна азвярэлыя шуцкораўцы бізунамі і прыкладамі выгналі бедную сям'ю. Гаротнікі нічога захапіць з сабой не паспелі.

Раптам я ўздрыгнуў ад нечаканасці.

З хаты пачуліся гукі.

Кошка? Ягнё?

Не.

Горка плача, аж захліпаецца, малое дзіця. А можа гэта фокуснічае вораг, каб зацягнуць мяне ў пастку жыўцом?

Пры мне рэвальвер і гранаты. Я асцярожна ўваходжу ў халодны пакой. Па сярэдзіне яго вісіць сялянская зыбка. У зыбцы—маленькае дзіцё.

— Ма-а-а... М-а-а... М-а-а...

Плач такі тоненькі, працяглы і жаласлівы, ажно сэрца сціскаецца. Я супакойваю сябе думкай: «у хаце, дзе знаходзіцца жывое дзіцянё, не можа быць ніякіх мін».

Валасы на галаве дзіцяці нагадваюць сухую салому. У яго шырока расчыненых вачах сполах і пакута. Яго пасінелы раток дрыжыць ад сцюжы. Ручкамі і ножкамі ён ледзьве рухае. Яны адубелі.

Я нахіляюся над зыбкай. Дзіця таропіць у мяне вочы і перастае плакаць. Вось яно ўжо ледзь прыкметна ўсміхаецца. Слязінкі, нібы дробныя пацеркі, блішчаць на яго пасінелым ад сцюжы твары.

Бедны хлопчык.

Я павольна паціраю яго ручкі і ножкі, грэю яго сваім цёплым дыханнем. Хлопчык пачынае рухаць рукамі і нагамі. Яны ажылі, паружавелі. Хлопчык задаволена ўхмыляецца і цягнецца да мяне з усіх сіл. Ён стараецца сесці, ды не можа. Нібы нешта трымае яго. Ён, слабенькі, літасці просіць.

— Ма-ма... му-му...

Эх, шуцкораўскае звяр'ё! Пакінулі бядняцкае дзіця ў хаце разам з анучамі...

Я хацеў ужо ўзяць дзіцятка на рукі, каб прытуліць яго да сябе, схаваць пад свой цёплы кажух. Але рукі мае апусціліся.

«Шуцкораўцы на ўсё здольны!—падумаў я.—Яны разумеюць, што чырвоны баец не пакіне дзіця без увагі. Можа люты вораг наўмысне пакінуў тут жывую прывабу?»

Асцярожна я падняў з хлопчыка лахманы і ўбачыў тоненькую вяровачку. Цела яго было моцна перавязана ўпоперак.

Калі-б я пацягнуў малога да сябе, ад нас абодвух асталіся-б акрываўленыя шматкі.

Ах, ты маленечкі фін! Пэўна, не бацькі мініравалі цябе. Яны недзе галосяць па сваім сыночку...

Я перарэзаў вяровачку, якая была злучана з мінай. З вялікай асцярогай падняў дзіця з зыбкі і загарнуў у свой кажух.

Вышаўшы цэлы з гэтай небяспечнай хаткі, я напісаў на дзвярах:

«Асцярожна. Мініравана».

Хлопчыка я палажыў у кабіну—і не паспеў яе зачыніць. Дзве кулі дзынкнулі, як пчолы, і разбілі шкло. Я апусціўся ў канаву ля самай машыны.

Некалькі хвілін было ціха. Я нікога не бачыў.

Але вось я заўважыў на снезе фінаў у белых халатах. Іх было пяць. Яны паўзлі да мяне на жыватах, нібы казачныя белыя гадзіны.

Першага я прыкончыў адным стрэлам. Астатнія схаваліся за будынкам і пачалі страляць з-за вугла. Але ў канаве я быў недасяжным. Віхры ўзварушанага снегу схавалі мяне. Тады белафіны задумалі мяне перахітрыць. Трое палезлі пад страху, а адзін астаўся на зямлі. Першыя тры стралялі зверху, а чацверты поўз да мяне з гранатай. Я супакоіў яго куляй. Ён перастаў рухацца.

У гэты час хлопчык выслізнуўся з кажуха і выпаў з кабіны. Я пачуў спачатку яго жаласлівы плач, а пасля ўбачыў вакол яго віхры снегу ад куль.

Ах, ашалелыя звяругі.

Я напалавіну выпаўз з канавы, схапіў хлопчыка і прытуліў да сябе. Ён замярзаў. Без кажуха замярзаў і я. Такая была злосць і за сябе і за беднае дзіця.

Я выцягнуў гранату, залажыў запал, падняўся і з усяе сілы кінуў яе пад страху...

Бой быў скончаны.

У кабіне я абаграваў свайго маленькага сябра і, замест соскі, даў яму кавалачак хлеба. Ён узрадаваўся і смактаў хлябец з вялікай прагнасцю.

Праз поўгадзіны падышлі нашы.

З лесу з'явіліся да нас бацькі хлопчыка.

Палкоўнік перадаў ім сына і паказаў на мяне. Яны зразумелі. Маці штосьці сказала па-фінску, пяшчотна пагладзіла хлопчыка і пацiснула мне руку, на якую ўпала гарачая мацярынская сляза.

З рускай мовы пераклаў ЗМІТРОК БЯДУЛЯ.





# БЫЦЬ ДАЗОРНЫМ НА ГРАНІЦЫ Я ХАЧУ

*Аркадзі Гейне*

*Малюнкі М. Карпенкі*

Брат мой служыць на граніцы,
У яго шынель, пятліцы
І сапраўдны рэвальвер,
А яшчэ ў яго цяпер
Будзе ордэн на грудзях
За адвагу ў баях.
З ім на варту кожны раз
Адпраўляецца Джульбарс,
Ён варожыя сляды
Адшукае заўсягды.

Я люблю свайго Джульбарса,
Я яго узгадаваў,
Смачны торт і суп, і мяса
Кожны дзень яму даваў.

Стаў вялікім ён і дужым,—
Брат узяў яго к сабе.
Піша брат: „Мы разам служым,
Добра служым, але тужыць
Тут Джульбарс твой без цябе...

Я і сам па ім сумую...
Але што-ж зрабіць магу я?—
Усе маленькім называюць,
На граніцу не пускаюць...

Тэлеграму дам Наркому:
„Надакучыла мне дома;
Быць дазорным на граніцы
Я хачу ўжо цяпер.
Высылайце мне пятліцы
І сапраўдны рэвальвер...





# Цудоўныя штаны



*Н. Носаў*

*Малюнкі М. Карпенкі*

Гэта былі цудоўныя зялёныя штаны, якраз такія, як носяць чырвонаармейцы. Юрка вельмі ганарыўся гэтымі штанамі. Калі ён выходзіў у іх на вуліцу, дык нос у яго сам задзіраўся ўгору, грудзі ўздымаліся, а ногі так і адстуквалі: «Аць-два! Аць-два! Аць-два!»

Прахожыя спыняліся, усміхаліся ўслед Юрку і казалі:

— Вось гэта герой! Ваяка!

Вось якія гэта былі цудоўныя штаны.

Аднойчы Юрка ішоў па вуліцы, а на яго з-за плоту забрахаў сабака. Юрка спыніўся і пачаў дражніць сабаку кіем праз плот. Сабака гырчэў і грыз кій зубамі, а Юрка смяяўся:

— Вось дурны, думае што кію баліць...

Сабака раззлаваўся, знайшоў дзірку ў плоце і выскачыў на вуліцу.

Юрка кінуўся наўцёкі, а сабака—хоп яго за штаны. Юрка паваліўся ды як закрычыць з перапуду.

Такі гармідар падняў хлапец, што сабака падкурчыў хвост і пабег ад яго. Юрка падняўся, ды бягом дахаты. Прыбег, ледзь аддыхаўся. Маці пытаецца:

— Што з табою?

— Нічога.

— Чаго-ж ты бег, нібы за табой сто ваўкоў гоняцца.

— Я есці захацеў.

— Так есці захацеў, што аж бег з усіх ног?

— Ага.

— Нешта ты выдумляеш, сынку.

І тут маці заўважыла, што ў Юркі падраныя штаны.

— А гэта што?—спытала маці.

Юрка не ведаў, што і сказаць.

— Гэта не я. Гэта сабака,—загаварыў нарэшце ён.

— Ты дражніў яго?

— А чаму ён на мяне брахаў? Я ішоў, нікога не чапаў, а ён—гаў! гаў!

— Дык не трэба дражніць. Няхай сабе брэша, абы не чапаў. Мабыць сабака пакусаў цябе?

— Не, толькі штаны падраў. Зашый, мама.

— Ну, гэта ўжо не. Ты будзеш сабак дражніць, штаны рваць, а я зашывай?

— Я больш не буду. Зашый, мама.

— Сам зашый.

— Я не ўмею.





— Ну, дык хадзі так, калі не ўмееш.

— І буду хадзіць!—прабурчэў Юрка.

Захацеў Юрка пайсці да магазіна, паглядзець на вітрыне цацкі. Ён вышаў на вуліцу, але тут яго спыніў дворнік, дзядзька Андрэй.

— Ну-ну!—сказаў дзядзька Андрэй.— Гэта не падыходзіць!

— Што не падыходзіць?—не зразумеў Юрка.

— Не падыходзіць, браток, не падыходзіць! Не па-статуту.

— Што не па́-статуту?

— Дзірка, браток, вось што. Штаны-ж у цябе ваенныя, ды з дзіркай, па статуту зашыць належыць.

— Я казаў маме, але яна не хоча,—пачаў было апраўдвацца Юрка.

— Маме? — здзівіўся дзядзька Андрэй. — Які-ж ты чырвонаармеец, калі мама будзе табе штаны зашываць? Сам павінен!

— Я не ўмею.

— Трэба вучыцца. Пойдзеш у Чырвоную армію, там, браток, мамы не будзе. Там усё трэба самому ўмець рабіць. Ты мабыць думаеш, што ў Чырвонай арміі можна абадраным хадзіць? Не, браток, не. У арміі кожная дробязь, кожны гузік вялікае значэнне мае. Табе, напрыклад, у атаку трэба ісці, а ў цябе штаны звальваюцца, таму што ты гузік забыў прышыць. Добра гэта?

— Вядома, што дрэнна, — згадзіўся Юрка.

— Вядома, вядома,—прамовіў дзядзька Андрэй, прыгладжваючы рукою вусы, каб захаваць сваю хітраватую ўсмешку.

Юрка стаяў на месцы і не ведаў, што сказаць далей...

— Ну, я пайду, дзядзька Андрэй,—прамовіў ён нарэшце.

— Ідзі, браток, ідзі!

Юрка пайшоў да магазіна. Ён больш не ганарыўся сваімі штанамі. Яму здавалася, што прахожыя аглядаюцца і смяюцца з яго. Ён стараўся не пападацца нікому на вочы і, крадучыся каля сцен і плоту, ішоў нібы злодзей. Нос яго ўжо не задзіраўся ўгору, грудзі не ўздымаліся, а ногі блыталіся на кожным кроку. Юрка не дайшоў да магазіна і павярнуў дадому. Яму ўжо не хацелася глядзець цацкі.

Дома Юрка ўзяў іголку, ніткі, адшукаў кавалак зялёнай матэрыі і выразаў з яе латку, падобную на вялікі гурок. Потым ён усунуў нітку ў іголку і ўзяўся прышываць гэты гурок да штаноў. Юрка вельмі спяшаўся і прышываў латку вялікімі фастрыгамі. Іголка нечакана высоўвалася з матэрыі і калола яму пальцы.

— Колецца, чччорт!—сварыўся Юрка на іголку і браў яе асцярожна двума пальцамі, нібы яна кусалася, як аса.

Ён доўга пыхцеў і чартыхаўся. Нарэшце работа была закончана. І Юрка надзеў штаны. Латка была прышыта няроўна і тырчэла на штанах як сушаны грыб. Матэрыя вакол латкі зморшчылася.

— Нікуды не варта, — прамармытаў Юрка.—Яшчэ горш чым без латкі.

Ён прыгладжваў латку рукой, але гэта нікольki не дапамагала.

— Ну, добра-ж! — прыгразіў Юрка латцы,—я табе пакажу.

Ён зняў штаны, адпароў латку нажом. Потым прыклаў яе зноў да дзіркі, старанна абвёў хімічным алоўкам і зноў узяўся за работу. Цяпер ужо ён прышываў маленькімі фастрыгамі. Юрка так захапіўся работаю, што нават і не заўважыў як ішоў час. Затое, калі ўсё было зроблена, на латку люба было глядзець. Яна была прышыта роўна і гладка. Нідзе не зморшчвалася і трымалася так моцна, што не адарваць і зубамі. Юрка надзеў штаны і доўга круціўся перад люстрам.

— Эх,—казаў ён,—мне-б яшчэ гузікі навучыцца прышываць, ды шкада—ні адзін не адарваўся! Ну, нічога, мабыць калі-небудзь адарвецца—абавязкова сам прышыю!

Юрка павесіў праз плячо сваю стрэльбу і пайшоў гуляць.

На двары ўбачыў дзядзьку Андрэя і знарок пачаў круціцца каля яго.

— Вось гэта добра,—сказаў дзядзька Андрэй.—Прышыў-жа! І добра! Цяпер і я скажу, што з цябе добры чырвонаармеец выйдзе.

Юрка адчуў у грудзях такую вялікую радасць, што хацелася скакаць і спяваць. Нос у яго зноў задраўся ўгару, грудзі ўзняліся, а ногі ішлі лёгка і шпарка, проста да магазіна цацак. Аць-два! Аць-два! Аць-два!

Прахожыя спыняліся, усміхаліся і гаварылі адзін аднаму.

— Вось гэта герой! А латка, глядзіце, алоўкам абведзена, адразу відаць, што сам прышываў! Малайчына!

*Пераклад з рускай мовы.*



# Малыя садоўнікі

*Пятрусь Броўка.*

*Малюнак Шэўчэнкі*

У Юрыка і Наты
Заўсёды працы шмат,—
Пад вокнамі ля хаты
У іх маленькі сад:

Тры яблыні налівы,
Пяць сёлетніх шчапоў,
Дзве грушыны, дзве слівы,
Сем ягадных кустоў.

І дзеці вельмі рады,
Што ўжо чацверты год,
Як гэту даў параду
Калгасны садавод.

Нездарма Ната шчыра
Упэўнена сама—
Такіх, як дзед Няміра
На свеце больш няма.

Не раз ён сам праверыў
Прышчэпы, каб раслі...
Расла дзічынка,
Бэры—
З ім разам прывілі.

Садоўніку прыемна
На сэрцы адчуваць,
Што вучні так старанна
За дрэвамі глядзяць.

Стаіць садок прыбраны.
Вясновая пара—
Сухое пазразана,
Пабелена кара.

Ідуць між дрэў паволі
Малыя,
З імі дзед—
Глядзяць, што ўжо на голлі
Успыхнуў белы цвет.





# ЧЫРВОНАФЛОТЦЫ

Заззяла вясеннее сонейка, пацяклі ручаі. Радасна вышлі дзеці на свежае паветра. Зімовыя гульні ўступілі месца новым гульням. На нашым рысунку паказана, як рэбяты вядуць „марскі бой“.

Уладары „флота“ імкнуцца прайсці праз ручай, але група рэбят добра ўмацавалася і не жадае прапусціць іх. Завязалася бойка. Хто тут пераможа?—Невядома! Бой яшчэ ў самым разгары!



# На крызе

*Янка Маўр* — *Малюнкі А. Сапеткі.*

У канцы вёскі быў мост праз раку Свіслач. Ля гэтага маста калісьці стаяў вадзяны млын. Але цяпер ад яго пазасталіся толькі абгарэлыя слупы. Вада бурна імчала пад мастом, а за мастом направа і налева адыходзілі маленькія струменьчыкі і ціханька закручваліся ў завадзі.

Тут заўсёды на паверхні вады збіралася многа ўсялякага дабра, якое плыло па рацэ,—і ламачча, і трава, і салома, і кавалак скрынкі. А аднаго разу Мікітка знайшоў тут вельмі цікавую драўляную качку. Яна, відаць, прыплыла з далёкага гораду, дзе яе згубіла якое-небудзь малое дзіця.

Але карысныя рэчы трапляліся вельмі рэдка; больш плыло смецце, якое толькі псавала прыгожую, ціхую завадзь. Улетку рэбяты вельмі любілі кіямі выштурхваць гэтае смецце на раку. Да чаго-ж весела было наглядаць, як струмень падхопіць выштурхнутую ламачыну ды пачне круціць і несці далёка-далёка.

Мікітка часцей за другіх праводзіў час ля маста. Нават цяпер, увесну, у самы ледаход, ён цэлыя дні бавіўся там.

— Што ты сабе думаеш?—казала яму маці.—Ты-ж з гэтымі крыгамі ў ваду трапіш.

— Не, не траплю!—упэўнена адказваў Мікітка.

Калі лёд ішоў густа, калі крыгі лезлі адна на адну, трашчалі і крышыліся, Мікітка не мог прыняць у гэтай справе ніякага ўдзелу. Ён мог толькі з цікавасцю наглядаць гэты страшны рух. Але хутка лёд парадзеў, крыгі паплылі вольна, лёгка па воднай прасторы. А ў ціхай завадзі, замест ламачча, сталі затрымлівацца крыгі. Хіба можна было не штурхнуць іх у струмень? З крыгамі мецць справу куды цікавей, чым з нейкім там смеццем.

Мікітка, стоячы на беразе, вельмі старанна рэгуляваў рух крыгаў. Як толькі спыніцца якая ў завадзі, ён зараз і выгане яе адсюль кіем.

Але вось з-пад маста вышла вялікая, тоўстая крыга, прайшла каля самай завадзі і прыпынілася; падумала, падумала трохі ды і пачала ціханька заварочвацца ў завадзь, да берага; і, нарэшце, так ёмка прыстасавалася тут, што можна было падумаць, нібы яна ўсю зіму тут жыла.

Крыга закрыла сабой усю завадзь. Адштурхнуць яе Мікітка не меў сілы. Ды і не адштурхваць, а ўзабрацца на яе захацелася Мікітку. Асцярожненька ступіў ён на яе адной нагой, другой—а яна нават не варухнулася. Значыць, можна было на ёй адчуваць сябе спакойна.

І Мікітка адчуў сябе на ёй так спакойна, як і на беразе. І гэтак-жа, як з берага, стаў рэгуляваць рух крыгаў. Цяпер ужо ён мог зачапіць крыгу, якая ідзе міма, прыцягнуць яе, сутыкнуць з другой і пацяшацца, як яны стукаюцца ілбамі.

А калі ён падцягваў да сябе крыгу, то гэтым самым адцягваў ад берага і тую, на якой ён сам стаяў... Патрошку яна пачала адсоўвацца ад берага. Але Мікітка так

захапіўся сваёй гульнёй, што зусім гэтага і не заўважаў.

А калі заўважыў, то яго крыга ўжо больш як на метр ад'ехала ад берага... Закрычаў Мікітка, пачаў кідацца туды, сюды, але дарэмна: крыгу падхапіла плыня і панесла.

Пачуць Мікітку з вёскі ніхто не мог, бо хаты былі не так блізка, і несла яго зусім у другі бок. Заставалася адна надзея, што ўбачыць і пачуе яго хто-небудзь у полі. Але хто ў такое разводдзе будзе хадзіць па полі, воддаль ад дарогі і хат?

Спачатку Мікітка доўга крычаў і плакаў, а потым убачыў, што плач яму ніяк дапамагчы не можа, і сцішыўся. Тым больш, што страху пакуль што ніякага не было. Крыга была вялікая, тоўстая, і зусім лёгка трымала на сабе малога Мікітку. Вазіла яна свайго пасажыра не толькі па рацэ, але і па сенажаці, па балоце, па алешніку. Вось тут ён улетку за матылямі ганяўся, там сярод кустоў знайшоў птушынае гняздо, а цяпер ён едзе над усёй гэтай мясцовасцю, як Папанін на крызе.

Але нядоўга цягнулася такое шчасце. Крыга зачапілася за алешыну і прыпынілася. А ў гэтую мінуту ззаду наехала на яе другая крыга і штурханула так, што Мікітка паляцеў дагары нагамі. А калі ён устаў, то ад яго крыгі засталася толькі палавіна. Гэтая палавіна паплыла далей, але ўжо не так спакойна і роўна, як раней. Ад кожнага руху хлопчыка яна гойдалася і гатова была перавярнуцца. Мікітка ўжо баяўся стаяць; ён сеў на лёд і дрыжаў ад страху. Зноў пацяклі ў яго слёзы, зноў пачаў ён крычаць і зноў ніякага адказу.

Вёска была далёка ззаду. З правага боку ішлі шырокія палі з белымі плямамі снегу, з левага—залітыя вадою паплавы, за якімі пачынаўся лес. Наўрад ці мог тут дзе быць чалавек.

Аднак адзін чалавек знайшоўся, ды толькі ён быў наверсе, над галавой. Самалёты кожны дзень рабілі тут вучэбныя палёты, бо блізка быў аэрадром. Звычайна на іх ужо і Мікітка не звяртаў увагі. Але цяпер, у бядзе, ён замахаў рукамі і са слязмі крыкнуў:

— Дзядзечка, памажы!

Вядома, Мікітка добра разумеў, што лётчык не толькі пачуць яго не можа, але наўрад ці і ўбачыць. Але ў такую мінуту ён нічога не думаў, а крычаў ад страху.

Так калісьці Мікіткавы дзяды і прадзеды ў бядзе таксама звярталіся да неба за дапамогай, але ў тыя часы не было там ніякіх лётчыкаў і не магло быць адтуль ніякай дапамогі.



Лётчык праляцеў міма досыць нізка. Праз мінуту ён вярнуўся і праляцеў яшчэ ніжэй. Потым паляцеў у вёску, ды як загудзіць над самымі хатамі—ледзь стрэхі не пазрываў. Людзі павыскоквалі з хат, глядзяць, дзівяцца. А самалёт паляцеў назад і пачаў кружыцца над Мікіткавай галавой. Сотні вачэй накіраваліся ў гэты бок, але з вёскі ніхто не мог убачыць хлопчыка на крызе.

Тады самалёт зноў паляцеў да вёскі, зноў праляцеў над стрэхамі хат. І тут людзі ўбачылі, што лётчык высунуў руку і махнуў ёю.

— Глядзіце, глядзіце: нешта выкінуў!— закрычалі людзі.—Бяжыце, лавіце!

На зямлю ляцела нешта маленькае, чорнае. Дзеці мігам злавілі яго. Гэта была рукавіца, а ў ёй запіска:

«Хлопчык на крызе».

Самалёт тымчасам зноў пачаў кружыцца над тым месцам, дзе плыў Мікітка, а потым паляцеў далей.

Пакуль самалёт лётаў вакол яго, хлопчык меў надзею, што лётчык яго ўбачыў і хоча дапамагчы. А калі самалёт паляцеў, дык Мікітка адчуў такі страх, такое гора, што крык мімаволі вырваўся з яго грудзей. За гэты час ад яго крыгі адламаўся яшчэ адзін кавалак, і цяпер ільдзіна хісталася ад кожнага руху хлопчыка і магла перакуліцца кожную мінуту. Мікітка сядзеў нерухома і ад гэтага зусім змёрз. Калі яго яшчэ раз штурхане якая крыга, ён перавернецца і пойдзе на дно...

Вось наперадзе, чапляючыся за кусты, павольна рухаецца вялізная крыга. Мікітка яе даганяе і зараз стукнецца аб яе. А тады...

Але Мікітка не захацеў спакойна сядзець і чакаць бяды. Калі крыгі зблізіліся, ён узяў ды і скокнуў на вялікую крыгу. Але край яе абламаўся пад яго нагамі, і ён уваліўся ў ваду...

Рукамі ён затрымаўся за крыгу, толькі ўзлезці на яе ніяк не мог: то саслізне з яе, то адкрышыцца кавалак ільда. А холад пачаў ужо сціскаць яго цела...

... У такім становішчы выратавала Мікітку падаспеўшая з вёскі лодка.



# Лес

Малюнак М. Свяцкага.

Лес ты галіністы,
Лес ты зялёны,
Сам ты гадуеш
Ліпы і клёны.

Поўны ты летам
Спевам птушыным,
Вецер гуляе
Ў стромкіх вяршынях.

Птушкі ў вырай
Ад нас улятаюць.
Узімку сняжынкі
Ў небе гуляюць.

Ходзіць Марозка,—
Інеем белым
Сыпле на дрэвы,
Беліць, як мелам.

Лета прыходзіць,—
Зноў ты зялёны,
Зноў ты гадуеш
Ліпы і клёны.

Вецер вяршыні
Ціха калыша,
Зноў ты напоўнен
Шумам і цішай.

Іван Крымсакоў.
Чырвонапольскі раён,
Горкаўская школа.

*Кандыдат біялагічных навук А. МАРКАВЕЦ*



# Далмацкая рамашка

Кожнаму з нас даводзілася назіраць, як у прыгожым садзе ці агародзе вусені знішчаюць маладое лісце. Спачатку на лісцях пачынаюць з'яўляцца маленькія дзірачкі, потым яны ўсё павялічваюцца і павялічваюцца. І, нарэшце, ад лісця застаюцца адны толькі жылкі. Сумна глядзець на такі сад ці агарод. Гэта ўсё работа вусеняў.

Некаторыя насякомыя знішчаюць не толькі лісце, яны паядаюць сцяблы, кветкі, яблыкі, збожжа, бульбу, лён.

Шкодныя насякомыя кожны год прыносяць вялікія страты нашай гаспадарцы. З імі трэба змагацца.

Змагацца са шкоднымі насякомымі можна пры дапамозе далмацкай рамашкі.

Далмацкая рамашка вельмі падобна да нашай звычайнай рамашкі. Адрозніваецца яна ад звычайнай толькі тым, што мае больш буйныя кветкі, ды колер у яе бледнаружовы.

Далмацкую рамашку сеюць на Украіне, Каўказе, Паволжы, Сярэдняй Азіі, у Варонежскай і Курскай абласцях. Сёлета гэтая расліна будзе высявацца і ў нас, на Беларусі.

Рэбяты! Вы можаце самі арганізаваць пасеў далмацкай рамашкі ў сябе на вопытным участку.

Насенне далмацкай рамашкі трэба высяваць ранняй вясной у добраапрацаваную і ўгноеную глебу. Праз 6—8 дзён вы ўбачыце першыя ўсходы рамашкі.



Калі расліна крыху падрасце, праводзіцца прарэжванне і праполка.

Кветкі рамашкі з'яўляюцца на другі год. На адным месцы яна можа расці 6—7 год.

Калі далмацкая рамашка зацвіце, яе збіраюць і добра прасушваюць.

Сушыць рамашку трэба ў цяньку, пад паветкай ці на чардаках. Высушаная далмацкая рамашка расціраецца ў парашок і ў такім выглядзе ўжываецца для знішчэння розных насякомых.

Калі ўзяць такі парашок далмацкай рамашкі і пасыпаць на насякомае, то яно пачынае бегаць, кідацца ў розныя бакі, і праз некалькі хвілін гіне. Гінуць насякомыя ад пірэтрына, які ёсць у далмацкай рамашцы.

Кіеўскі завод «Хімэфір» з далмацкай рамашкі выпрацоўвае зараз вадкасць «Мор», у якой ёсць пірэтрын. Калі пры апрысканні вадкасць пападае на клапа, муху, блыху, таракана, прусака ці іншых насякомых—яны адразу гінуць.

З далмацкай рамашкі выпрацоўваюцца яшчэ пірэтрынавыя свечкі і мыла. Досыць такую свечку спаліць у хаце, як у ёй загінуць усе мухі, клапы і іншыя насякомыя.

Вось якая карысная расліна гэта далмацкая рамашка.

## КВЕТКІ ПАД СНЕГАМ



Тае снег, а на прагалінах ужо вылазяць падснежнікі. Вылазяць з лістамі, бутонамі і тут-жа каля снегу распускаюцца кветкі.

Як выраслі гэтыя кветкі? Пад снегам-жа холадна і цёмна.

Але аказваецца для гэтых кветак дастаткова 2—3 градусы цяпла, а гэта як раз столькі, колькі бывае вясной. І пад снегам не вельмі цёмна. Снег прапускае святло.

Нядоўга радуюць вока гэтыя кветкі. Канчацца майскія дні і не адшукаць больш падснежнікаў. Яны пажоўклі. Толькі іх карэнні зашыліся ў зямлі, чакаюць наступнай вясны, каб зноў першымі выглянуць з-пад снегу насустрач сонцу.

*Словы Барысаўскіх піонераў* *Музыка М. Іванова*

# ПІОНЕРСКІ МАРШ

Ве - ся - лей гучы - це гор - ны,
ба - ра - бан грымі мацней,
грай - це тру - бы і вал - тор - ны,
у - ра - чысцей і гучней.

Прыпеў:

Раз, два, раз, два, наш атрад і - дзе,
раз, два, раз, два, наш атрад пяе,
раз, два, раз, два, наш атрад і - дзе,
песню, песню, новую пя - е, пес - ню,
пес - ню но - вую пя - е. е.

Весялей гучыце горны!
Барабан, грымі мацней!
Грайце трубы і валторны
Урачысцей і гучней!

Раз-два, раз-два! Наш атрад ідзе.
Раз-два, раз-два! Наш атрад пяе.
Раз-два, раз-два! Наш атрад ідзе.
Песню, песню новую пяе.

Вы, бацькі, заваявалі
Нам квяцісты, вольны шлях
І геройскі адстаялі
Край савецкі ў баях!

*Прыпеў*

Калі-ж хто агнём і газам
Нас захоча задушыць,
Мы з бацькамі пойдзем разам
Край свой родны бараніць.

*Прыпеў*

# Сустракайце птушак

Настае вясна. Вяртаюцца да нас з цёплых краін птушкі.

Мы павінны добра сустрэць іх, таму што яны прыносяць нам вялікую карысць. Птушкі знішчаюць насякомых, якія разносяць заразныя хваробы. Гэтым птушкі ахоўваюць здароўе чалавека. Яны знішчаюць вялікую колькасць сельскагаспадарчых шкоднікаў.

Птушкі—нашы прыяцелі, і іх трэба ахоўваць. Трэба развесіць для іх шпакоўніцы, трэба зрабіць так, каб паблізу нашых дамоў, у садах, у парках і на палях было больш птушак.

Ёсць рэбяты, якія разбураюць птушыныя гнёзды, а птушак забіваюць. Яны, мабыць, не ведаюць, як дрэнна яны робяць! Дамагайцеся, каб кожны піонер, кожны школьнік зрабіў шпакоўніцу і павесіў яе на дрэва каля свайго дома. А піонерскія атрады, школы і гурткі юнатаў павінны зрабіць шпакоўніцы для паркаў, садоў, сквераў.

## Як зрабіць шпакоўніцу

З сухой дошкі ці абрэзкаў таўшчынёю у 1,5—3 см нарэжце дошчачкі. Размеры іх паказаны на чарцяжы. Для таго, каб дождж хутка сцякаў, дах трэба зрабіць пакаты. Для гэтага пярэднюю сценку трэба зрабіць на 5 см вышэй задняй.

Бакі шпакоўніцы, дах і дно збіваюцца цвікамі, але так, каб вострыя канцы цвікоў не тырчалі ў сярэдзіне, бо птушкі могуць параніцца.

Калі жадаеце, каб птушкі з ахвотай сяліліся ў вашых доміках, памятайце: у гэтых доміках не павінна быць шчылін, ляток іх павінен быць звернут на поўдзень ці паўднёвы ўсход. Не павінна быць таксама і розных упрыгожанняў, бо птушкі гэтага не любяць.

Самае гняздоўе ўмацоўвайце вельмі добра, каб не калыхалася ад ветру і было трошкі нахілена лятком да зямлі, каб вада не пападала ў шпакоўніцу.

Вешайце шпакоўніцы не бліжэй 30 метраў адна ад другой.




# Паілка для кур

У курэй ёсць дрэнная звычка забруджваць ваду ў паілцы: яны ўлязаюць у яе з лапкамі. Апрача таго на сонцы вада вельмі хутка выпараецца. Таму паілкі трэба вельмі часта напаўняць вадой зноў.



Лёгка і проста зрабіць паілку, у якой заўсёды будзе дастаткова чыстай вады. (глядзіце малюнак).

Горлачка бутэлькі тут не даходзіць да дна місачкі. Вада ў паілцы стаіць на ўзроўні краю горлачка. Калі куры адап'юць вады, некалькі пузыркоў паветра ўвойдзе ў бутэльку, і зноў узровень вады ў паілцы падымецца да горлачка.

Гэта вельмі зручная паілка, а зрабіць яе зусім лёгка.




Гэта было ў выходны дзень. Надвор'е было сонечнае. Мы з нашымі юнатамі пайшлі ў парк паглядзець, як жывуць шпакі ў новых шпакоўнях.

Ідзем сабе. Нехта ўспомніў пра «Дзеда-Усёведа» і нам усім стала трохі сумна, таму што мы даўно яго не бачылі.

Нейкі чалавек увесь абвешаны вудамі і банкамі, перайшоў дарогу. Ён так шпарка крочыў, што бляшаныя банкі, ударваючыся адна аб другую, грымелі. Усе прахожыя звярталі на яго ўвагу.

І як-жа мы ўзрадаваліся—гэта быў Дзед-Усёвед!

— Куды вы гэта?—крыкнуў нехта з нас яму ўслед.

Ён аглянуўся.

— А-а-а... Добры дзень, рэдакцыя!

— Добры дзень, добры дзень,—адказалі мы яму.—Чаму вы да нас не заходзіце? Вы-ж абяцалі яшчэ на тым тыдні наведаць нас.

— Рад-бы прыйсці, ды часу няма. Бачыце—вясна. Спяшаюся рыбу лавіць. Калі хочаце—пойдзем разам.

Мы адразу забылі пра шпакоў і пайшлі з дзедам.

— Я вас навучу, як трэба рыбу вудзіць. На жыўца, на чарвяка,—нават на муху яна ў мяне бярэцца.

Прышлі мы да рэчкі. Дзед закінуў вуду і адразу выцягнуў... банку з-пад кансерваў. Мы засмяяліся.

Дзед трохі засароміўся.

— Нічога,—гаворыць ён,—і банка прыгадзіцца, для чарвякоў яна самы раз.

Ён яшчэ раз закінуў вуду і выцягнуў вялізнага шчупака, потым другога, трэцяга.

— Гэта што!—гаворыць ён.—Звычайныя шчупакі. Вось паглядзелі-б вы якая у марах і акіянах рыба водзіцца!

— А якая?—зацікавіліся мы.

— Там усякія рыбы ёсць—і лятаючыя, і вандруючыя па сухазем'і. А вось у Паўднёвай Амерыцы водзяцца электрычныя рыбы. Так, так! не здзіўляйцеся—электрычныя рыбы.

І Дзед-Усёвед пачаў расказваць:

— Аднойчы, пераходзячы невялікую рэчку ў гэтай самай Паўднёвай Амерыцы я атрымаў такі ўдар, што ўпаў у ваду і пасля ледзь змог дабрацца да бліжэйшага дрэва. Хвіліны дзве ногі мяне амаль зусім не слухаліся. Аказваецца ў рэчцы сядзеў электрычны вугар. Гэты вугар выпрацоўвае ў сваім целе электрычнасць, калі да яго дакрануцца,—атрымліваецца разрад, усё адно як ад электрычнага штэпселя.

— А ці вялікі ён, гэты вугор?

— Вялікі—2 метры бывае, і важыць 15—20 кілаграмаў. Колеру ён аўлікава-зялёнага з светлажоўтымі плямамі.

Ежу вугар здабывае сабе ўначы. Ён цішком падбіраецца да таго месца, дзе знаходзяцца рыбы, крабы і лягушкі. Электрычным токам забівае іх і потым праглынае.

Мы з цікавасцю слухалі апавяданне Дзеда-Усёведа.

Калі мы развіталіся з дзедам, у яго быў поўны кошык рыбы. Ён запрасіў усіх нас да сябе на юшку. Мы падзякавалі і таксама прасілі яго часцей заходзіць да нас у рэдакцыю. Дзед абяцаў нам, што як толькі ў яго будзе вольны час, ён абавязкова прыдзе.

— А пакуль што,—сказаў ён,—няхай чытачы вашага журнала самі напішуць, як яны вудзяць рыбу, якія ў іх адбываліся здарэнні пры гэтым, і якія цікавыя рыбы яны ведаюць.

Дзед-Усёвед пайшоў дахаты, а мы пайшлі ў парк—паглядзець як жывуць шпакі ў сваіх новых шпакоўнях.

Адказны рэдактар Ф. Т. Канстанцінаў. Афармленне М. Свяцкага. Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ Тэл. 2-38-54

Друкарня імя Сталіна, Мінск. 20.000 экз. Зак. № 4167. $2^1/_2$ друк. арк. УК5820

Цана 30 кап.



# У зялёным лясочку

У зялёным лясочку
Кароўка рыкае,
Кароўка рыкае,—
Травіцы шукае.
Як знойдзе травіцу,—
Дык—грызь і адкусіць,
І кожная траўка
Схіліцца ёй мусіць.

Галіна Кавалевіч, 10 год,
Вілейская вобласць,
Маладзечанскі раён,
Горадзілаўскі сельсовет,
вёска Парэчча.

